Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№243 (756) 15 снежня 1993 г. Серада. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 500023 экз. | Кошт у розніцу — 25 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**Переговоры между делегацией Беларуси, возглавляемой Председателем Верховного Совета Станиславом Шушкевичем, и делегацией Узбекистана во главе с президентом Исламом Каримовым начались вчера в правительственной резиденции под Ташкентом.**

Ожидается, что по их итогам будет подписан пакет документов, регламентирующий торгово-экономические и финансовые отношения двух стран.

❑

**Либерально-демократическая партия России, согласно предварительным итогам голосования по 77 из 88 избирательных округов, набрала 24% голосов.**

По данным Центризбиркома РФ, вслед за ЛДПР на выборах депутатов Государственной Думы по общефедеральным спискам от избирательных объединений идут "Выбор России" — 15%, компартия — 11%, "Женщины России" — 8,7%, Аграрная партия — 8%, блок "Явлинский—Болдырев—Лукин" — 7%, ПРЕС — 5,7%, ДПР — 5,5%.

❑

**По данным центра оперативной информации при президенте РФ, в Совет Федерации прошло значительное количество руководителей представительных органов власти, распущенных после октябрьских событий в Москве.**

Бурятию в Совете Федерации будет представлять Председатель Верховного Совета Леонид Потапов, Республику Горный Алтай — его коллега Валерий Чаптынов, Коми — Юрий Спиридонов, Кемеровскую область — Амангельды Тулеев.

Вошли в Совет Федерации и члены ГКЧП Василий Стародубцев и Анатолий Лукьянов (от Смоленской области).

❑

**В Минске с рабочим визитом побывала польская военная делегация во главе с начальником Генерального штаба Войска Польского генералом Тадеушем Вилецким.**

Польские военные обсудили с белорусскими коллегами из Министерства обороны вопросы укрепления военного сотрудничества между двумя государствами.

❑

**Президент Латвии Гунтис Улманис надеется после нового года встретиться в Москве с президентом Российской Федерации Борисом Ельциным и лидером Либерально-демократической партии Владимиром Жириновским.**

По его мнению, успех Жириновского связан с упущениями в проводимой Борисом Ельциным политике реформ в последние полтора года.

❑

**В одной из городских больниц Москвы завершилось медицинское обследование бывшего министра безопасности России Виктора Баранникова, арестованного в связи с событиями 3—4 октября в Москве. У него обнаружены "прогрессирующая стенокардия" и ряд других заболеваний.**

По мнению независимых медицинских экспертов, характер заболевания и общее состояние здоровья вряд ли позволят ему находиться в условиях следственного изолятора.

### Постой, пассажир, транспорт дорожает!

**С сегодняшнего дня в два раза увеличены тарифы на проезд в автобусах междугородного сообщения.**

Теперь 1 км проезда в "мягком" автобусе стоит 50 рублей и 45 рублей в "жестком".

В 2,5 раза выросли тарифы и за проезд в электричках.

**Анатолий РОМАНОВСКИЙ.**

### Молочные реки обмелеют в январе

**На объединенном президиуме Могилевского областного совета Союза аграрников и Совета колхозов принято обращение к правительству и Верховному Совету Беларуси.**

Заявлено, что если до 10 января будущего года не будут приняты неотложные меры по спасению экономики села, то будет прекращена всякая переработка и поставка сельхозпродукции государству.

**Борис МИХЕЕВ.**

### Мертвые сраму не имут...

**Итальянская сторона готова предоставить Беларуси около одного миллиона долларов США для перезахоронения останков итальянских военнослужащих.**

В Рим с визитом отправился председатель Комитета по социальной защите военнослужащих при Совете Министров Беларуси Николай Чергинец. Ожидается подписание соглашения с министерством обороны Итальянской Республики о сохранении могил и возвращении на родину останков погибших во второй мировой войне на территории Беларуси итальянских солдат.

**Виктор ФЕДОРОВИЧ.**

### Спорт-прогноз

Результаты 50-го тиража
(11—12 декабря)
1-1, 2-2, 3-X, 4-1, 5-2, 6-1, 7-1, 8-1, 9-2, 10-1, 11-1, 12-X, 13-1.
Примечание. Результат второй пары определен жеребьевкой.

*Дежурная часть*

### Посуда ваша — "пойло" наше

**В Минске у Комаровского рынка при продаже 100 бутылок водки задержан житель Литвы К.**

Экспертиза показала, что водка — "самопальная" и ни под один "пищеварительный" ГОСТ не подходит. Розыскники установили, что К. переоборудовал квартиру своего столичного друга в водочный мини-завод: привезенную с собой горячительную смесь разливал в водочные бутылки, купленные в местных пунктах стеклотары. Наклейки и пробки тоже "приехали" из Литвы.



**В Советском районе столицы при попытке изнасилования задержан 20-летний рабочий малого предприятия.**

Показать свою половую силу 33-летней "избраннице" "работяга" решил прямо в кабине лифта. Из лифта насильника выводили уже в наручниках.

**Сергей РАЧИЛА.**



Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА:**

# "Беларусь распрадаецца за мяжой оптам і ў розніцу!"

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

Не ведаю, ці слухалі ўважліва даклад старшыні Часовай камісіі Вярхоўнага Савета па вывучэнню дзейнасці камерцыйных структур пры органах улады і кіравання народнага дэпутата Аляксандра Лукашэнкі жыхары рэспублікі, але Авальная зала ўпершыню за доўгія месяцы была бітком набіта тымі, хто меў магчымасць сюды прайсці. Народны дэпутат Леанід Радкевіч нават не стрымаўся і прапанаваў журналістам:

— Хутчэй фатаграфуйце ўсіх, тут сабраліся самыя зацікаўленыя людзі!

Магчыма, так яно і было, а можа, усе ўладальнікі прапускоў на пасяджэнні сесіі проста хацелі пачуць самыя "смажаныя" факты з жыцця, як сказаў народны дэпутат Валерый Ціхіня, беларускай "коза-ностры". Тым не менш факт застаецца фактам: вельмі многіх цікавіла, што ж "накапала" за час сваёй працы камісія Лукашэнкі.

Аднак Аляксандр Рыгоравіч, пералічыўшы ў пачатку свайго выступлення вялікую колькасць прадстаўнікоў праваахоўных органаў, якія дапамагалі ў рабоце камісіі, папярэдзіў, што выйшаў ён на трыбуну не дзеля таго, каб назваць некалькі "смажаных" фактаў, а каб зрабіць "магчыма больш поўнае апісанне гідры карупцыі", паказаць, якой павінна быць "стратэгія і тактыка супрацьдзеяння ёй".

Паколькі даклад Аляксандра Лукашэнкі будзе надрукаваны ў наступным нумары нашай газеты (з такой просьбай звярнуліся многія дэпутаты), то сёння я не буду спыняцца на ім падрабязна. Адзначу толькі, што праца членамі камісіі праведзена сапраўды вельмі вялікая — з гэтым пагодзіцца, напэўна, большасць народных дэпутатаў рэспублікі. Іншая справа — вывады, канкрэтныя прапановы, якія зрабіў у канцы свайго даклада Аляксандр Лукашэнка. Што ж, на яго думку, трэба рабіць?

— Неабходна наладзіць сістэму падрыхтоўкі і прыняцця заканадаўчых актаў, вастрыём сваім накіраваных на барацьбу з карупцыяй, злоўжываннем уладай. У нас жа часта атрымліваецца нейкая незразумелая чахарда: то адна з парламенцкіх камісій выйдзе з праектам, то з праваахоўных органаў нешта выпадкова паднясуць. У выніку нараджаюцца сырыя, недасканалыя і практычна непрацуючыя законы накшталт таго, што быў прыняты намі гэтым летам. Я маю на ўвазе Закон "Аб узмацненні барацьбы з эканамічнай злачыннасцю і карупцыяй". На думку экспертаў, ён намнога слабейшы за аналагічныя заканадаўчыя акты Расіі і Украіны.

Далей. Неабходна глыбока абгрунтаваная і ўсебакова прапрацаваная эканоміка-прававая экспертыза эканамічнага заканадаўства. Прасцей кажучы, кожны раз павінна даследавацца простае пытанне: што трэба прадугледзець, каб той або іншы закон або пастанова ўрада эканоміку зрушылі, а разграбленню, нават і пад прыстойным выглядам рынку, ходу б не далі.

Мы прапануем увесці ў практыку работы Вярхоўнага Савета рэгулярныя парламенцкія слуханні аб вышэйшых чыноўніках, якія патанулі ў карупцыі. У тым ліку — слуханні, калі ўзнікнуць падставы, і аб саміх народных дэпутатах Вярхоўнага Савета. Гэта неабходна нават пры наяўнасці моцнага антыкарупцыйнага заканадаўства і сістэматычна ажыццяўляемых прэвентыўных мерах. У вышэйшых эшалонах уладу зменшыць нельга: там яе аб'ём суразмерны маштабу рашэнняў і ўзроўню адказнасці. Улада, а тым больш вялікая, як вядома, псуе чалавека. Таму і патрэбен, на наш погляд, механізм публічнага выкрыцця не вытрымаўшых спакусы высокіх чыноў. Іншага месца для такога механізма няма, акрамя як у парламенце. Дарэчы, так робіцца ва ўсіх цывілізаваных дзяржавах, на якія мы любім так часта спасылацца.

І яшчэ. Як бы нам ні хацелася, мы павінны вярнуцца да прапановы дэпутатаў і спецыялістаў, якія катэгарычна настойваюць на прыняцці на заканадаўчым узроўні механізма функцыяніравання сістэмы дэкларавання даходаў насельніцтва. Пачынаць трэба з нас, дэпутатаў, членаў урада, іншых дзяржаўных служачых. Я зраблю гэта першым.

Са сказанага лагічна вынікае, што ў Вярхоўным Савеце павінен быць створаны салідны, надзелены ўсімі неабходнымі паўнамоцтвамі пастаянна дзеючы орган, заклікаем арганізаваць супрацьдзеянне карупцыі на самым высокім дзяржаўным узроўні. Яго асноўнымі функцыямі павінны стаць: глыбокая і шырокамаштабная антыкарупцыйная работа, удзел у эканоміка-прававой экспертызе праектаў законаў, падрыхтоўка парламенцкіх слуханняў па праблеме, каардынацыя дзейнасці праваахоўных органаў у барацьбе з карупцыяй.

Думаю, што гэту ролю мог бы ўзяць на сябе касцяк цяперашняй часовай камісіі.

Зусім іншая пазіцыя ў народнага дэпутата Сяргея Антончыка, які выступіў з садакладам па гэтаму пытанню. Па-першае, Сяргей Антонавіч выказаў здзіўленне, што даклад Аляксандра Лукашэнкі мае такую палітычную накіраванасць, што ў ім не закранута сама заганная сістэма ўлады. Па-другое, не рынак вінаваты ў тым, што склалася такая катастрафічная сітуацыя, а яго адсутнасць, адсутнасць рэформ. Вінаватыя і Саветы, якія сталі галоўнай крыніцай карупцыі і злоўжыванняў. І таму нам трэба як мага хутчэй праводзіць рэформы, трэба мяняць сістэму ўлады. Толькі такім чынам, а не стварэннем яшчэ аднаго кантралюючага органа можна змагацца з беларускай мафіяй.

Пасля дакладаў пачаліся выступленні народных дэпутатаў, і кожны з іх выказваў свой пункт погляду на карумпіраванасць улады рэспублікі. Што датычыцца рашэння парламента па гэтаму пытанню, то даведаемся мы аб ім пазней.

*Кампетэнтна!*

## Служыць інтарэсам народа

**Падраздзяленне грамадскіх сувязей КДБ Рэспублікі Беларусь звярнулася ў Белінфарм з просьбай распаўсюдзіць у сродках масавай інфармацыі сваё паведамленне.**

У ім, у прыватнасці, гаворыцца аб тым, што 24 лістапада г.г. па прапанове групы народных дэпутатаў у "Народнай газеце", а затым і ў шэрагу іншых выданняў было апублікавана пісьмо старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага і міністра МУС Уладзіміра Ягорава ў адрас кіраўнікоў рэспублікі Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча. У ім, як вядома, размова ішла аб праблемах, звязаных з рэфармаваннем беларускай арміі, стварэннем лішніх кіраўніцкіх структур у сферы нацыянальнай бяспекі, і шляхах іх вырашэння.

"Падраздзяленне грамадскіх сувязей КДБ, — адзначаецца ў паведамленні, — устрымлівалася ад якіх-небудзь каментарыяў наконт самога пісьма і розных публікацый да вынікаў афіцыйнага яго разгляду (нагадваем, што зварот накіроўваўся канкрэтным адрасатам). Разам з тым нельга не звярнуць увагу на некарэктныя, на грані з абразлівымі, выказванні ў адносінах да аўтараў пісьма з боку некаторых асоб і журналістаў.

Асабліва "стараецца" рэдкалегія газеты міністэрства абароны "Во славу Родины". Не палічыўшы патрэбным апублікаваць на сваіх старонках тэкст вышэйназванага звароту, рэдакцыя між тым палічыла неабходным арганізаваць вельмі жорсткае, адназначна крытычнае асуджэнне як самога факта паяўлення пісьма, так і яго зместу і пазіцыі аўтараў, прычым не саромеючыся ў выказваннях, з грубымі недвухсэнсавымі намёкамі.

Дабіўся асаблівых поспехаў у жангліраванні элементарнай журналістыкай і ваеннай этыкай В.Заматалін, які ўзяў на сябе непасільную ношу аналітыка і трацейскага суддзі ў артыкуле "Карабель тоне ці яго топяць?" ("Во славу Родины", 8.12.93 г.). Не лічачы мэтазгодным паўтараць "яркія" цытаты з заметкі палітолага, цалкам пакідаем іх на сумленні аўтара і службовай асобы, з ведама якой гэта было надрукавана. З-пад пяра заўсёды добразычлівага і паважлівага да КДБ ваеннага журналіста А.Безвясельнага Камітэт дзяржбяспекі рэспублікі тут жа ператварыўся ў "грозную" "сілавую" "суперарганізацыю", якая засталася "рэччу ў сабе" ("Во славу Родины", 9.12.93 г.).

Замест пошуку шляхоў супрацоўніцтва, дапамогі ў станаўленні і павышэнні эфектыўнасці аховы дзяржаўных граніц афіцэры прэс-цэнтра пагранвойск В.Манюціч і В.Несцяровіч усё вастрыё журналісцкіх коп'яў накіравалі на абарону штатнай структуры галоўнага ўпраўлення ПВ.

Мы разумеем, што названыя аўтары імкнуцца аказаць і паказаць падтрымку і аддانасць сваім высокім кіраўнікам — і на гэта права ніхто не замахваецца. Але, думаецца, будзе лепш, калі ўсе мы разам будзем шукаць і падтрымліваць ісціну, не пераступаючы грані этыкі, узаемнай павагі, паднімемся вышэй ведамасна-групавых і асобасных інтарэсаў, свята памятаючы свой асноўны абавязак — "служыць інтарэсам народа і дзяржавы", — гаворыцца ў паведамленні падраздзялення грамадскіх сувязей КДБ Рэспублікі Беларусь.

**Белінфарм.**

*З першых крыніц*

## Ці выратуюць "зайца" 30 мільярдаў?

**Трыццаць мільярдаў расійскіх рублёў, знятых з рахункаў прадпрыемстваў, будзе накіравана на біржавы рынак рэспублікі ў бліжэйшы час для падтрымання курсу беларускіх разліковых білетаў.**

"У тым, што Нацбанк вымушаны быў так дзейнічаць, закладзена здаровае зерне, — сказаў старшыня праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі Станіслаў Багданкевіч. — Нядаўна ўпершыню ў Маскве на біржавых таргах былі выстаўлены нашы "зайцы". Іх курс там склаў 4,6 за адзін расійскі рубель. Так што на сённяшні дзень беларускі курс 4,2 і маскоўскі 4,6 прыблізна роўныя. Гэтымі днямі ўрад нарэшце згадзіўся з тым, каб расійскія рублі, якія ёсць на рахунках у прадпрыемстваў, Нацыянальны банк выкупіў і "кінуў" на біржу. З іх дапамогай будзе магчыма больш-менш разумна аднавіць і прадоўжыць таргі на біржы".

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ, Белінфарм.**

# Мемарандум

### апазіцыі БНФ і дэмакратычных дэпутатаў Вярхоўнага Савета аб сістэме ўлады ў Беларусі

Дачыненні да сістэмы ўлады ў Беларусі выказаныя ў праграме БНФ, прынятай на III з'ездзе БНФ 30 мая 1993 г., у заявах і паведамленнях дэпутацкай апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, зробленыя на працягу 1990—1993 гг. Нашы адносіны да дзяржаўнага ўладкавання застаюцца нязменнымі:

Беларусь — парламенцкая рэспубліка, у якой можа быць прэзідэнт, які з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, выбіраецца ўсім народам, мае права пры вызначаных законам умовах распусціць парламент і сённяшнія недзеяздольныя Саветы, прызначыць новыя выбары прадстаўнічай улады. Аднак гэты прэзідэнт не з'яўляецца кіраўніком выканаўчай улады;

выбары такога прэзідэнта магчымыя не раней як праз шэсць месяцаў пасля выбрання новага прафесійнага парламента і сфарміравання новага ўрада;

першымі крокамі да выхаду з палітычнага крызісу і эканамічнага тупіка можа стаць адстаўка цяперашняга Савета Міністраў і стварэнне пераходнага ўрада;

другім крокам — прыняцце паправак да Канстытуцыі альбо прыняцце новай Канстытуцыі і правядзенне нечарговых выбараў у парламент, які будзе працаваць на прафесійнай аснове;

павінна быць паэтапна ліквідавана сістэма Саветаў як разбуральная недзеяздольная структура ўлады і заменена муніцыпальнай сістэмай. Выбары кіраўнікоў мясцовых органаў улады павінны ажыццяўляцца ўсім народам і адбывацца адначасова з выбарамі прэзідэнта;

павінны быць ліквідаваны вобласці і створана двухступенная сістэма адміністрацыйнага падзелу.

Мы асабліва падкрэсліваем, што без адстаўкі цяперашняга збанкрутаванага ўрада выхад з палітычнага і эканамічнага крызісу немагчымы. Нельга, каб урад, які разбурыў эканоміку, аддаў краіну на разрабаванне, паставіў пад пагрозу яе суверэнітэт і які да таго ж валодае велізарным лобі ў Вярхоўным Савеце, застаўся надалей, каб ён рыхтаваў і праводзіў выбары (прэзідэнта, парламента, мясцовых органаў улады) і такім чынам зноў забяспечыў перавагу скампраметаваўшай сябе наменклатуры.

**Народныя дэпутаты Беларусі:**

**З.Пазьняк, У.Заблоцкі, Л.Зданевіч, А.Трусаў, Ю.Беленькі, М.Крыжаноўскі, Л.Дзейка, В.Аляпіеў, Б.Гюнтар, В.Какоўка, І.Германчук, С.Антончык, В.Голубеў, Я.Цумараў, С.Папкоў, А.Шут, П.Холад, Г.Грушавы, С.Слабчанка, П.Драган, І.Сямашка (супраць любога прэзідэнта), А.Спіглазаў, С.Навумчык, А.Паруль, Я.Глушкевіч, В.Даўгалёў, А.Янец, М.Маркевіч, М.Аксаміт, Г.Сямдзянава, Л.Баршчэўскі, І.Герасюк, М.Мацюшонак, У.Сапронаў, І.Лапаухаў, М.Калбаска, М.Сукач, Р.Вячэрскі, І.Пырх, Л.Сечка, А.Сасноў, В.Сярдзюк, В.Радамысльскі, А.Кузьма, А.Шаўнін, В.Уласенка, А.Барысенка, Н.Салдатава, Л.Звераў, А.Даўлюд, А.Волкаў, А.Лятко, Э.Багаўцоў, Я.Бядулін, У.Лазарэвіч, Р.Плоцкі, А.Кічкайла, У.Шаўцоў, Л.Тарасенка, М.Слямнёў, П.Палагеча, Б.Савіцкі, Я.Новікаў.**



## Слова дэпутатам

**Уладзімір СТАНКЕВІЧ:**

— Я не паспеў яшчэ дэталёва прааналізаваць даклад Аляксандра Лукашэнкі, але першае ўражанне — часовая дэпутацкая камісія зрабіла вялікую справу, пайшла ў патрэбным накірунку.

Буду шчыры — ведаючы характар Лукашэнкі, чакаў, што ягонае выступленне будзе мець сумбурны характар, што ён аддасць перавагу "паляванню на вядзьмарак". Да гонару кіраўніка камісіі, ён здолеў падаць багатую, разнастайную інфармацыю ў сістэмным выглядзе. У дакладзе няма ніякай апрычніны.

Дэпутацкая камісія не падмяняла сабой следчых, яна, як відаць з даклада, імкнулася дакапацца да першапрычын заганных з'яў. Лукашэнка нікога не зневажаў. Гаворыцца аб крымінале, і калі гэта толькі меркаванне, то яно і выглядае меркаваннем, бо ніхто, акрамя суда, не мае права назваць чалавека злачынцам.

Камісія дала багаты матэрыял для праваахоўных органаў.

Перакананы, што Вярхоўны Савет на карысць справе павінен абавязкова даць камісіі паўнамоцтвы на працяг дзейнасці. Бо яна паказала, што выдзеленыя сродкі патрачаны недарэмна. Нехта можа падумаць, што мы зробім добрую паслугу Аляксандру Лукашэнку, калі дадзім яму ў Мінску крэсла. Мне асабіста не падабаецца такі кулуарны шэпт. Па-першае, крэсла гэта не мяккае, а, наадварот, мулкае; па-другое, так можна падазраваць любога.

Тэлефоннае права яшчэ вельмі моцнае ў нашым грамадстве, а вось на гэту камісію праз тэлефонную трубку ўплываць, мяркуючы па ўсім, цяжка. Таму ёсць сэнс пашырыць яе паўнамоцтвы для магчымасці больш шырока і глыбока вывучаць адпаведныя праблемы і змагацца з карупцыяй.

Камісія праклала глыбокую баразну. Праваахоўным органам неабходна, раўняючыся на яе, араць далей.

**Сцяпан ЗАРЭЦКІ:**

— Мяне глыбока хвалююць сёння дзве рэчы: выступленне з дакладам Лукашэнкі і вынікі выбараў у Расіі. І паверце, што душа поўніцца незадаволенасцю.

Беларусь хоць і ціхая краіна на фоне некаторых былых рэспублік-сясцёр, але ж і ў ёй сёння пануе палітычная нестабільнасць.

Ці паспрыяе дабру і парадку інфармацыя, якую ў такім энергічным стылі падаў Лукашэнка? Цяжкае пытанне, пошук адказаў на яго прыводзіць да не зусім прыемнай думкі. Вярхоўны Савет, а значыць, і кожны з дэпутатаў блаславіў працэс стварэння банкаў, розных камерцыйных структур. Выходзіць, што мы самі адкрылі шлюзы, а цяпер пад барабанны пошчак спрабуем лавіць драпежнікаў, магчыма і ўмоўных.

Вярхоўны Савет, захапіўшыся напісаннем законаў прынцыпова новага зместу, не знайшоў мудрасці, каб адначасова ўвесці эфектыўны кантрольны механізм. А ў золата ёсць адна спрадвечная ўласцівасць — яно заўсёды прыліпае да рук тых, хто каля яго ходзіць.

Я не апраўдваю хціўцаў. Проста Вярхоўны Савет павінен узняцца над мітуснёй, мноствам фактаў, прозвішчаў, пікантных сітуацый. Мы пацешым слухачоў, нехта заробіць значны палітычны капітал. А цёмныя справы як былі, так і застануцца.

Галоўнае ж сёння для нас, дэпутатаў, — усімі сіламі падтрымаць сельскую гаспадарку, бо на галодны страўнік ніякую работу да ладу не давядзеш.

Другое: не трэба адкладваць на доўгі час канстытуцыйны праект. Мы можам прыняць паўнацэнны Асноўны Закон і на яго аснове праводзіць новыя выбары ў Вярхоўны Савет, каб не трапіць у "чорны струмень", як здарылася ў Расіі. Прамовы такіх палітыкаў, як Уладзімір Вольфавіч Жырыноўскі, скажу чэсна, мяне палохаюць. Паны, якія дазваляюць сабе ў адкрытую гаварыць аб скасаванні граніц, аб трэцяй сусветнай вайне, не проста жартуюць з агнём, яны штурхаюць у бездань чалавецтва, цывілізацыю. Таму не позна адумацца, паразважаць, з кім нам мець справу.

